1-99
123557 МОСКВА
КЛИМАШКИНА 4
ПОСОЛЬСТВО ПОЛЬША
НАР ГАЗ

Жыві, Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№ 191 (204) 1 кастрычніка 1991 г. Аўторак.

ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## Факты Аргументы Комментарии Суждения

### День пожилых

**Сегодня впервые по инициативе Организации Объединенных Наций отмечается Международный день пожилых людей.**

Хочется верить, что для нашей страны этот осенний день с непривычным для слуха названием станет первым днем по-настоящему внимательного отношения к старости.

### Мебель на дрова

**Похоже, в Сенненском районе удлинятся очереди на покупку мебели. Сварщик местного райпотребсоюза одним махом сжег три сотни шкафов, столов и прочей дефицитной мебели.**

Все это находилось на складе железнодорожной станции Бурбин. Впрочем, сжег не по злому умыслу. Были нарушены элементарные правила проведения сварочных работ.

### Откалол номер...

УФА. **Зорко стерегут правоохранительные органы партийное имущество.**

На днях журналисты «Советской Башкирии», выехавшие в командировку на редакционном автомобиле, были остановлены на выезде из города бдительным работником ГАИ, который, не долго думая, снял с автомобиля номера. Свои действия автоинспектор объяснил приказом, запрещающим выпускать за черту города легковые автомобили с обкомовскими номерами. Объяснения о том, что «Советская Башкирия» уже не партийный орган, гаишник слушать не стал.

### В деловом мире неспокойно

**Известный коммерческий банк республики — МИКОБАНК — направил протест в Высший хозяйственный суд.**

Протест вызван решением нижестоящего — областного — хозяйственного суда. Дело в том, что ранее к одному из пайщиков банка — кооперативу «Метроном» — предъявила иск на шесть с половиной миллионов рублей налоговая инспекция. Областной суд обратил взыскание на пай в два с половиной миллиона рублей в МИКОБАНКЕ, поскольку к этому времени кооператив «Метроном» самоликвидировался.

Правление банка считает решение суда полностью незаконным. Во-первых, потому, что МИКОБАНК — общество с ограниченной ответственностью и, согласно своему уставу, не отвечает за долги пайщиков. Во-вторых, потому, что миллионы «Метронома» ушли в счет задолженности банку. Налоговая инспекция, предъявившая иск, видимо, думает иначе...

Что ж, Высшему хозяйственному суду предстоит еще одно непростое дело.

### Вкратце

▲ Глава делегации Республики Беларусь на 46-й сессии Генеральной Ассамблеи ООН министр иностранных дел Петр Кравченко, выступая на общеполитической дискуссии, познакомил присутствующих с внешнеполитическими принципами и приоритетами, пониманием внутренних задач сегодняшним руководством республики.

▲ Независимость Латвии признали уже свыше 70 стран. Одной из первых среди них была Российская Федерация.

▲ Бразилия уверенно лидирует в борьбе за титул «чемпиона инфляции» этого года — за восемь месяцев уровень инфляции достиг 164,08 процента.

▲ Утром 26 сентября на Белоярской АЭС (Свердловская область) в тоннеле между третьим блоком и дизель-генератором произошел взрыв водородно-воздушной смеси. Разрушений и потерпевших нет.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Первая жертва двоевластия

**Ночью, в канун очередного заседания сессии Моссовета, в квартиру одного из депутатов позвонили. Когда он открыл дверь, его схватили и выволокли на лестничную площадку.**

На сессию депутат сбежал из больницы с забинтованной головой, чтобы рассказать коллегам о ночном нападении. В этом он усмотрел акцию политическую, и потому рассказ подлил масла в огонь конфликта между депутатским корпусом и исполнительной властью столицы. Новый начальник ГУВД Москвы А. Мурашев, назначенный на эту должность мэром Г. Поповым, пообещал лично следить за ходом расследования криминала, связанного с нападением на одного из сторонников оппозиции мэрии. Противостояние двух властей усилилось. Многие москвичи, которым непонятны истоки конфликта между группами демократов, требуют роспуска Моссовета. Ходят слухи, что новый председатель его, избранный несколько месяцев назад вместо Попова, собирается подавать в отставку.

### Не понять, не простить...

ВИТЕБСК. **Город потрясен страшным преступлением.**

Третьеклассница исчезла из двора школы сразу же после окончания уроков. Спустя некоторое время мертвую, истерзанную девочку нашли под грудой мусора в полиэтиленовом мешке.

Трудно найти слова, чтобы передать горе близких замученного ребенка. Дойти до истины в этом преступлении — дело чести следствия.

**Выпуск подготовлен по сообщениям Ирины ДЕРГАЧ, Владислава ПЛАТУНА, Сергея БУТКЕВИЧА, Леонида ФАДЕЕВА, Татьяны ПИМЕНОВОЙ и агентств «Инфо-нова» и «Урал-акцепт».**

**«Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.**

Адраджэнне

# Без мінулага няма будучага

**АД АЎТАРА. Гэты матэрыял быў напісаны задоўга да так званага путчу, але актуальнасць яго, на погляд аўтара, не зменшылася. Пытанне аб адраджэнні нацыянальнай самасвядомасці робіцца зараз вырашальным для лёсу нашага народа. Беларускі патрыятызм — гэта адзіны зараз сцяг, пад якім здольны сабрацца найбольш актыўныя сілы нашага грамадства, каб захаваць нашу незалежнасць, каб уратаваць Беларусь ад сацыяльных выбухаў і гвалтоўных праяў на нашай зямлі вынікаў такіх выбухаў у суседніх рэспубліках.**

На нашых вачах адбываецца распад вялікай дзяржавы. Галоўную прычыну гэтага распаду трэба шукаць ні ў памылках урада, ні ў дзеяннях нейкіх «дэструктыўных сіл». Дзяржавы заўсёды развальваліся спачатку ў галовах сваіх грамадзян. Распад нашага грамадства пачаўся не ў апошнія гады. Ён пачаўся значна раней, у часы так званага застою, калі людзі, пастулова зняверыўшыся ў ідэалах, якія ім прапаноўвала ўлада, проста заняліся вырашэннем сваіх уласных праблем. Гэты бяскрыўдны занятак, натуральны для краін з эканамічнай самарэгуляцыяй, аказаўся вельмі небяспечным для нашай звышцэнтралізаванай дзяржавы. Грамадства пачало дэградзіраваць. Перабудова канчаткова пазбавіла нас старых ілюзій, але не дала новых усеагульных кансалідуючых ідэй, якія б вытрымалі сутыкненні з рэальнасцю. Таму яна толькі значна паскорыла распад.

Развал эканомікі, падзенне маралі, рост злачыннасці— усё гэта вынікі разбурэння сацыяльнага кантролю, які заснаваны на каштоўнасцях і інтарэсах, не супадаючых з інтарэсамі значнай часткі грамадства. Агульнасаюзны парламент не знайшоў рэальна кансалідуючых ідэй і пастулова павісае «ў паветры» без падтрымкі з боку народа. Рэальная ўлада пераходзіць да рэспублік. Але і рэспубліканскім парламентам пагражае тая ж небяспека. Тым больш што дзеля ратавання эканомікі ім трэба прымаць вельмі непапулярныя меры. А хіба ж людзі будуць цярпець гэта, калі цярпець ім няма дзеля чаго? Рэспубліку чакае эканамічны і палітычны хаос, калі мы не здолеем кансалідавацца. Да таго ж нам, ахвярам Чарнобыля, кансалідацыя патрэбна значна больш, чым любому іншаму народу. Але на якой выснове шукаць нацыянальнай згоды, дзе знайсці агульныя каштоўнасці, якія б здолелі аб'яднаць большасць? Марксізм-ленінізм зараз прываблівае толькі народы Паўночнай Карэі і Кубы. Хрысціянамі сябе ўсведамляе толькі нязначная частка нашага насельніцтва. Каштоўнасці свабоды і дэмакратыі не ўсведамляюцца большасцю народа, бо працэс нараджэння дэмакратыі на нашай зямлі быў гвалтоўна перарваны два стагоддзі назад. Значнае павышэнне культурнага ўзроўню народа таксама патрабуе дзесяцігоддзяў. Наша моладзь ні ў што не верыць — мы нарэшце выхавалі пакаленне «поўных атэістаў».

У такіх умовах адзінай рэальна кансалідуючай ідэяй можа стаць толькі нацыянальная ідэя. Яскравы прыклад гэтаму — падзеі ў Прыбалтыцы, дзе сотні тысяч людзей, не баючыся пагроз з боку ваеннай сілы, выходзяць на дэманстрацыі ў падтрымку сваіх урадаў.

Дэмакратычна абраныя ўрады Балтыі здолелі абаперціся на нацыянальную свядомасць сваіх народаў. Складанасць сітуацыі на Беларусі ў тым, што мы гэтага не маем. Стагоддзі паланізацыі і русіфікацыі прывялі да страты народам нацыянальнай самасвядомасці. Таму зараз вельмі актуальна было б абудзіць яе ў найбольш актыўнай частцы нацыі, каб потым абаперціся на пачуццё нацыянальнага патрыятызму пры правядзенні палітычных і эканамічных рэформ, неабходных для ўратавання Беларусі. Нацыянальныя прыярытэты дапамаглі б у справе пошуку нацыянальнай згоды, у аснове якой павінна ляжаць прызнанне першасці інтарэсаў беларускага народа перад усімі астатнімі (партыйнымі, ідэалагічнымі, матэрыяльнымі).

Адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці неабходна яшчэ і таму, што ўсе суседнія з намі дзяржавы таксама ў той ці іншай ступені падпалі пад уздзеянне эканамічнага і палітычнага крызісу. На фоне распаду дзяржаўных структур СССР гэта можа прывесці да таго, што ў асобных урадаў можа ўзнікнуць спакуса ўвесці свае ўзброеныя сілы на тэрыторыю Беларусі пад сцягам выратавання сваіх супляменнікаў, жыццю якіх нібыта пагражае небяспека. Такія меры амаль заўсёды дазваляюць адцягнуць увагу ўласнага народа ад эканамічных цяжкасцей і падняць прэстыж урада.

Аналагічная пагроза можа сыходзіць нават ад узброеных фарміраванняў некаторых палітычных сіл у суседніх рэспубліках у выпадку, калі ўрады гэтых рэспублік страцяць кантроль над сітуацыяй. Вядома, усе гэта — горшы варыянт развіцця падзей. Але якой бы малой не здавалася яго верагоднасць, магчымасць такога варыянту трэба ўлічваць.

Утрымаць аматараў закону «сваіх спрадвечных зямель» ці «аб'яднання» ад спакусы можа беларускае рэспубліканскае войска. Маральны дух і дысцыпліна такога войска павінна абапірацца на абуджаны нацыянальны патрыятызм, а не на ідэалогіі розных палітычных партый і рухаў. Тады гэта войска будзе значна больш баяздольным, чым раздзіраемая міжнацыянальнымі супярэчнасцямі армія, у якую салдат заганяюць сілком.

Неабходнасць адраджэння нацыянальнай самасвядомасці відавочная. Але як гэта зрабіць у сціслыя тэрміны, якія адвяла нам гісторыя? Пачынаць трэба з узнаўлення гістарычнай памяці народа. Нездарма ж, калі тыраны розных часоў ад Івана Крывавага да Гітлера хацелі пазбавіць народ нацыянальнай самасвядомасці і ператварыць яго ў быдла, яны амаль заўсёды пачыналі з барацьбы супраць нацыянальнай

(Заканчэнне на 2-й стар.).

# ОБРАЩЕНИЕ

**Союза журналистов Беларуси к Председателю Верховного Совета Республики Беларусь С. С. Шушкевичу**

Уважаемый Станислав Станиславович!

Непомерно возросшие цены на бумагу, полиграфические услуги, доставку газет и журналов поставили под угрозу само существование периодических изданий; загнали в экономический тупик практически все редакции газет и журналов, большинство издательств.

Отчаянные попытки предпринимательской и коммерческой деятельности, которые совершают редакции газет и журналов, не вселяют уверенности в завтрашнем дне. Реальна угроза массового закрытия изданий из-за экономической несостоятельности. К чему это может привести, предсказать нетрудно: информационный вакуум, который вряд ли ликвидируют радио и телевидение, мгновенно заполнится всевозможными слухами и домыслами. На рынке информации возобладают низкопробные издания. И тогда нависнет угроза над гласностью и демократией, пожалуй, наиболее реальными завоеваниями последних лет.

Союз журналистов республики считает, что для выживания прессы в условиях перехода к рынку необходимо на государственном уровне решить следующие проблемы:

1. Для общественно-политических изданий осуществить фиксирование цен на бумагу, полиграфию и услуги связи на уровне этого года.

2. Принять незамедлительные меры по перепрофилированию предприятий республики, выпускающих техническую бумагу, на производство газетно-журнальной бумаги.

3. Детские, белорусскоязычные и районные издания, во многом способствующие сохранению национального языка, должны иметь государственную дотацию.

4. Учитывая, что значительная часть бюджета КПСС—КПБ десятилетиями складывалась из средств, заработанных журналистами, следует восстановить социальную справедливость. С этой целью при решении судьбы собственности КПСС—КПБ необходимо:

а) передать в собственность трудовых коллективов редакций, в первую очередь взявших на себя учредительство своих изданий, помещения, где они располагаются, другое редакционное имущество с учетом средств, перечисленных ими ранее в бюджет КПСС—КПБ;

б) выделить часть имущества и средств, принадлежащих КПСС—КПБ, детским, белорусскоязычным и районным изданиям с учетом их потребностей;

в) погасить из средств бюджета КПСС—КПБ задолженность изданий, в числе учредителей которых были партийные и комсомольские комитеты;

г) передать на баланс или дать возможность приобрести по остаточной стоимости Союзу журналистов республики редакционный корпус Белорусского Дома печати (после переселения редакций в новое здание) для переоборудования его в республиканский Дом журналиста.

5. При Совете Министров республики и исполкомах областных Советов народных депутатов создать материальные фонды по поддержке периодической печати.

6. Принять срочные меры по кардинальному обновлению материально-технической базы Гостелерадио республики. Особое внимание следует обратить на предельную изношенность радиовещательной техники венгерского и чехословацкого производства и отсутствие отечественных аналогов радиоаппаратуры. Для закупки радиовещательной техники и магнитофонной ленты, которой хронически не хватает, Гостелерадио республики валютными средствами не располагает.

7. Ускорить принятие республиканского Закона о печати, который, восполнив существенные недоработки аналогичного союзного Закона, гарантировал бы свободу слова, обеспечивая журналистам правовую и социальную защиту.

Обращаем ваше внимание, уважаемый Станислав Станиславович, и просим довести до сведения Верховного Совета, что игнорирование этих жизненно важных для белорусской прессы проблем вынудит журналистов республики предпринять согласованные коллективные действия по защите демократических норм и принципов, своих профессиональных прав и интересов читателей.

С уважением

**Рада Союза журналистов Беларуси.**

25 сентября 1991 года.

Дзікунства?

# Вогнішчы ля дарог

Мне часта даводзіцца ездзіць у камандзіроўку, і кожны раз заўважаю адно і тое ж — вогнішчы ля дарог. Чорны, бы мазут, дым густымі воблакамі засцілае наваколле, гарыць трава з усім жывым у ёй, знішчаецца гумусны пласт зямлі...

Што гэта? Дзікунства ці проста безгаспадарлівасць? І тое, і другое. Дзікунства з боку тых шафёраў, якія выкідваюць на абочыны дарог непрыгодныя для эксплуатацыі аўташыны, безгаспадарлівасць з боку тых, хто іх падпальвае. Дарэчы, як я ўбачыў на 819-м кіламетры трасы Масква — Брэст, падпальваюць пакрышкі — хто б вы думалі? — самі дарожнікі. Едзе чалавек у вопратцы цаглянага колеру, бачыць — ляжыць на ўзбочыне аўтапакрышка, падыходзіць і падпальвае. На маё пытанне, ці ж гэта па-гаспадарску, адказвае: «А што з імі рабіць — ніхто ў мяне іх не забірае. Наша база — пад Слонімам, не везці ж мне на матаролеры іх аж туды».

На матаролеры, сапраўды, везці аўтапакрышкі за 70—100 кіламетраў не трэба. Але ж дарожнік жыве непадалёку. Назбіралася адходаў — заказы аўтамашыну, якая прыедзе і забярэ.

Мне сорамна і за тых шафёраў, якія паступаюць так, як быццам ім болей ніколі не праязджаць па гэтай дарозе і як быццам у бліжэйшай будучыні яны будуць жыць на Месяцы, а не на Зямлі. Я хачу спытаць і ў кіраўнікоў аўтагаспадарак: няўжо нельга не выдаваць шафёру новую аўтапакрышку датуль, пакуль ён не верне старую? Аджыўшыя ж свой век шыны можна пускаць у перапрацоўку, яны — выдатны матэрыял пры будаўніцтве тых жа дарог.

З гэтай публікацыяй я звяртаюся адразу да двух міністраў рэспублікі — аўтамабільнага транспарту і будаўніцтва аўтамабільных дарог: спыніце дзікунства і безгаспадарлівасць.

**Іван СІЛЬНІЦКІ,**
**жыхар г. Мінска.**

# ПАСТАНОВА

## Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб устанаўленні часовага парадку рэгістрацыі статутаў (палажэнняў) рэлігійных арганізацый у рэспубліцы**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацыях» устанавіць часовы парадак рэгістрацыі статутаў (палажэнняў) рэлігійных арганізацый у рэспубліцы.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**
20 верасня 1991 г. гор. Мінск.

# ПОСТАНОВЛЕНИЕ

## Центральной комиссии по выборам народных депутатов Республики Беларусь

**О назначении выборов народного депутата Республики Беларусь от Белорусской республиканской организации ветеранов войны и труда**

В связи со смертью народного депутата Республики Беларусь Улитиной Л. Д., избранной от Белорусской республиканской организации ветеранов войны и труда, на основании статьи 58 Закона «О выборах народных депутатов Республики Беларусь» Центральная комиссия по выборам народных депутатов Республики Беларусь постановляет:

Назначить выборы народного депутата Республики Беларусь от Белорусской республиканской организации ветеранов войны и труда и провести их в соответствии с порядком, установленным Законом «О выборах народных депутатов Республики Беларусь» не позднее 12 декабря 1991 года.

**Заместитель Председателя Центральной комиссии по выборам народных депутатов Республики Беларусь**
**С. МОХОВИКОВ.**
**Секретарь Центральной комиссии по выборам народных депутатов Республики Беларусь**
**И. ЛИХАЧ.**
26 сентября 1991 года.

Ракурс



# Дажыліся...

Паважаныя чытачы, паглядзіце на гэтыя здымкі. Такія разбураныя, знявечаныя вёскі можна сустрэць у любой вобласці, у любым раёне нашай рэспублікі. Гэта — вынік і чарнобыльскай катастрофы, і той палітыкі, калі многія вёскі заносіліся ў кагорту «бесперспектыўных». Гэта — вынік панавання ў нашай дзяржаве на працягу дзесяцігоддзяў таталітарнай сістэмы, якая народжана камуністычнай ідэалогіяй.

А як жа жылі самі кіраўнікі-камуністы? На другой старонцы мы прапаноўваем рэпартаж нашых карэспандэнтаў з добра вядомага ўсім дачнага пансіяната ЦК КПБ «Дразды». Пачытайце— і самі адкажаце на гэтае пытанне.

Фота Валерыя СУЛЬЖЫЧА.

